## СЬВЯТА ПРАЦЫ

Сьвята Працы якое ува усім сьвеце сьвяткуецца 1-га Трауня не здабыло у беларускіх масау асаблівай сымпатыі.

І ня дзіва. Дзень «Першага Трауня» пад польскай акупацыяй быу днём ненакояу, днём камуністычнай правакацыі ды жорсткага прасьледу з боку польскіх паліцыйных уладау.

Дзеля таго Сьвятам гэтым мала хто й цікавіуся. Гэтак-жа мала хто цікавіуся і прафэсыйным рухам, з тых жа самых прычын. Пад савецкаю акупацыяй прауда як сьвята 1-га Трауня так і Прафсаюзны рух рэспэктаваліся, але рабілася гэта пад прымусам. Найлепей аб гэтым сьве дчыць той факт што на дні 1-га Трауня змацнялася ахова прадпрыемствау, узмацняліся пастарункі у ва усіх больш адказных пунктах, вязьніцах, казармах, дзяржауных установах фабрыках. Здвойваліся вайсковыя і паліцыйныя патрулі і г.д.

Сапрауднымі беларускі работніцкі рух, вольны і бяз націску, паустау толькі за межамі Беларусі. Ягоныя праблескі ужо былі відавочныя, але выразны і зусім азначаны характар рух гэты прыняу пасьля апошняй вайны, перадусім у Францыі. Абедананьне Беларускіх Работнікау у Францыі было першай ластаукай у гэтай галіне і другою чужанецкаю сэкцыяй, пры Францускай Канфэдэрацыі Хрысьціянскіх работнікау.

Абставіны, у якіх разьвівауся работніцкі, ці як яго начы называюць, сындыкальны рух у Беларусі, прычыніліся і да заняпаду зацікауленьня ім сярод нашага грамадзянства на чужыне. Сындыкалізм на захадзе можа пахваліцца у апошніх дзясятках гадоу сапрауды вялікімі дасягненьнямі і у значнай меры падняу дабрабыт і кансалідацыю працоунага сьвету. На будучай вольнай Беларусі, таксама паустануць канфлікты між паасобнымі групамі сацыяльнымі, якія і змогуць быць урэгуляваныя у выніку торгау і перагаворау між імі. Але для гэтага якраз гэтыя групоукі павінны быць злучаныя у арганізацыі, ці начай, у сындыкаты.

Супярэчнасьці паасобных сацыяльных групау павінны быць рэгуляваныя ня спосабам, «бязьлітаснай» клясавай барацьбы а спосабам узаемнага зразуменьня і уступак з боку сільнейшых на карысьць слабейшых. І тут якраз хрысьціянская ідэалёгія і была-б найбольш адпаведнаю, як база пад прафэсыйную этыку.

Выходзячы з гэтага, пасьля апошняй вайны і была пастауленая тэза хрысьціянскай ідэалёгіі у падставу працоунага руху на Захадзе і да гэтага руху, як да найбольш адпаведнага для будучых умоу Беларусі, прымкнуу і наш малады сындыкалізм.

На пераломе сакавіка і красавіка гэтага году у Парыжы адбылася канфэрэнцыя Хрысьціянскіх Сындыкатау народау із Усходняй і Сярэдняй Эуропы, Прыбалтыкі і Балканау, якая паклікала да жыцьця фэдэрацыю гэтых сындыкатау і выбрала яе улады. Адно із пачэсных мейсцау у Управе арганізацыі заняу прадстаунік нашага хрысьціянскага сындыкалізму.

Але на гэтым праблема не канчаецца. Апошняя падзея накладае на беларускія працоуныя масы новыя абавязкі. Перадусім, пачынаючы ад даты заснаваньня гэтай фэдэрацыі, прызнанай афіцыяльна усімі хрысьціянскімі Сындыкатамі і паважана шмат якімі Урадамі, ставіць нас у рады работніцкага руху на рауні з усімі вольнымі народамі, а таксама дзяржаунымі народамі з Эуропы. Мы ня будзем больш бязпрауными і пакінутымі Дэ-Пі, а сябрамі заргаnізнванага і прызнанага арганізму. І мы маем абавязак утрымаць свой прэстыж у гэтым арганізьме, а зробім мы гэта толькі тады, калі усе бяз вынятку беларускія работнікі уступяць у рады існуючых нашых хрысьціянскіх сындыкатау, а дзе іх няма ствараць гэткія.

Хрысьціянскі сындыкльны рух незаймаецца палітыкай, але змагаючыся супроць насільля і несправядлівасьці, пасярэдня б'ець па нашых ворагах, ахвярамі якою мы зьяуляемся. Дык няма ніякай прычыны ухіляцца ад удзелу у нашым Сындыкальным руху.

Усе, як адзін, павінны увайсьці у рады супольнага працоунага руху, абапёртага на хрысьціянскай справядлівасьці і маралі.

Тут мы зможам абаранішь сваё сацыяльнае становішча за мяжою і тут мы зможам узгадаваць вартасныя кадры для будучага нашага працоунага руху на бацькаушчыне, каб разам з прафэсыйнымі рухамі іншых народау ісьці да лепшага заутра працоуных масау Беларусі, а разам з гэтым і усяго чалавецтва.

Дык усе у рады Аб'еднаньня Беларускіх Работнікау на чужыне.

Адзін із сындыкаваных.

## ВАЖНАЯ ЗДАБЫЧА

### ПЕРШАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

Вольных Хрысьціянскіх Сындыкатаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы ды Балтыцкіх і Балканскіх Краінаў.

(Прэсавы камунікат.)

31 сакавіка і 1 красавіка 1951 г. адбылася ў Парыжы, пад патранатам Міжнароднае Канфэрэнцыі Сындыкатаў першая Канфэрэнцыя Хрысьціянскіх Сындыкалістых Цэнтральнае і Усходняе Эўропы ды Балтыцкіх і Балканскіх Краінаў.

Із шмат якіх краін Канфэдэрацыі Хрысьціянскіх Сындыкатаў прыслалі сваіх дэлегатаў, а зь іншых свае брацкія пажаданьні.

На Канфэрэнцыі было 81 дэлегатаў з Францыі, Бэльгіі, Галяндыі, Люксэнбургу, Вялікай Брытаніі, Нямеччыны ды Швайцарыі, якія рэпрэзантавалі 13 нацыяў. Хрысьціянскія Сындыкалісты - Эміґранты з Паўднёвай Амэрыкі, Аўстраліі, З.Ш.А. і Канады прыслалі на Канфэрэнцыю прывітальныя тэлеграмы, а некаторыя перадалі землякам свае паўнамоцтвы. На Канфэрэнцыі былі рэпрэзантанты Міністэрства Працы і Міністэрства Здароўя. Таксама былі прысутнымі дэлегаты Міжнароднага Бюра Працы і Ватыканскага Бюра Эміграцыі.

У выніку двуднёвай працы Канфэрэнцыя прыняла шэраг важных пастановаў.

Канфэрэнцыя зацьвердзіла арганізацыйны статут чужынецкіх работнікаў у рамах М.К.Х.С. ды паклікала да жыцьця сталае Бюра з тымчасовай канстытуцыяй, якую мае зацьвердзіць Першы Кангрэс. Прэзыдэнтам арганізацыі быў выбраны сп. Ф. Кракоўскі - Паляк з Бэльгіі, Гэнэральным Сакратаром выбрана сп. Івана Паповіча - Украінца з Францыі. Першым віцэ-прэзыдэнтам - інж. Рыдлеўскага Лявона - Беларуса:, другім віцэ-прэзыдэнтам сп. Пэева - Баўгарына; скарбнікам сп. Сэрфізо - Мадзяра і ня сябраў сп.сп. Лукаша - Славака і Каіма - Паляка. У Кантрольную Камісію ўвайшлі: Старшыня - др. Нэстэрчук В. - Украінец, сябры Мікалайчак і Калупчак - Палякі, заступнікамі: Спадарыня Новакас - Летувіска і сп. Андрашы - Мадзяр.

Канфэрэнцыя прыняла заяву аб неабходнай салідарнасьці з падняволенымі народамі з паза жалезнае заслоны і глыбокай удзячнасьці вольным краінам, у якіх уцекачы і эміґранты знайшлі сабе прытулак.

Работнікі ўцекачы і эміграны заклікаюць народы, ўвайходзачыя ў Эўрапэйскую Раду, каб яны бралі пад свае развагі непадзельнасьць эўрапэйскага кантынэнту і каб з большай увагай падходзілі да пытаньня ўцекачоў на абшары вольнае Эўропы.

У сацыяльнай галіне, Хрысьціянскія Сындыкаты на чужыне дамагаюцца роўнапраўнасьці з іншымі работнікамі ў справе ўмоў працы, узнагароды, сацыяльнага забясьпечаньня і карыстаньне роўнапраўем у сындыкатах.

Спэцыяльна Канфэрэнцыя зьвярнула ўвагу на праблемы, якія якраз разглядаюцца Аб'еднанымі Нацыямі і ІРО. Яна прывітала прыняцьце Канфэрэнцыяй Неўрадавых Арганізацыяў, якая нядаўна мела мейсца ў Жэнэве, дэкляраціі агульных прынцыпаў аховы эміґрантаў і даручае Урадам пільнаваньне гэтых прынцыпаў.

У дзялянцы сацыяльнай помачы бедным чужынцам, Канфэрэнцыя дамагалася між іншым, каб матэрыяльны стан ня быў прычынаю выдаленьня з краіны.

Канфэрэнцыя асабліва зьвяртае ўвагу міжнародных дзейнікаў на праблему ўцекачоў - інтэлектуалістых, старцаў, інвалідаў і тых, якія ўтрымоўваюць вялікія сем'і.

Чакаючы склікаваньня Рады работнічых эміґранцкіх арганізацыяў Цэнтральнае і Усходняе Эўропы ды Балтыцкіх і Балканскіх Краінаў, якую Канфэрэнцыя стварыла, Бюро ў паразумленьні з Камісіяй для ўцекачоў пры М.К.Х.С. падрыхтуе рэпразантацыю работнікаў - уцекачоў і эміґрантаў у міжнародныя арганізацыі, як Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў, Міжнароднае Бюро Працы, ІРО і інш..

Парыж. 1 Красавіка 1951.

## ХАЛОДНАЯ ВАЙНА У БЕЛАРУСІ

(З руху супраціву беларускіх сялян бальшавізму).

У бэльгійскай газэце «Гэт Фольк» за другога лістапада 1950 г. надрукаваны артыкул карэспадэнта гэтай газэты з Варшавы пад тытулам «Другая фаза нутранай халоднай вайны». Артыкул гэты для нас цікавы асабліва тым, што карэспаадэнт «Гэт Фольку», як відаць, мае змогу атрымоуваць весткі зь Беларусі.

Дзеля гэтага, хоць у артыкуле і знайходзім шмат рэчау нам ведамых падаем, аднак артыкул гэты у поуным перакладзе.

ВАРШАВА. Кастрычнік.

Апошнімі часамі надыйходзяць весткі, якія сьцьвярджаюць, што бальшавіцкая вайна супраць сялянства яшчэ далёка незакончана ня глядзячы нават на перавядзеньне жорсткае аграрнае калектывізацыі у 1931-1932 гадох, у часе якое вывезена больш як 5 мільёнау кулакоу на Сібір.

Яно было ужо ведама, што рэзультаты апрацоукі калгаснага поля былі незавадальняючымі для палітбюро і што партыя ужо паугода таму назад прыняла новую палітычную лінію, у насьледках якое яны хочуць яшчэ раз паспрабаваць шчасьця, каб змусіць непакорных сялянау падпарадкавацца сваей поунай кантролі. А ёсьць над чым бальшавіком турбавацца, калі яшчэ больш як 50 прац. усяго насельніцтва зьяуляецца сялянствам. У газэце «Правда» з 28 лютага мінулага году апублікавалася «каяньне» А.А. Андрэева (члена Палітбюро), у якім заяуляецца, што ягоная калгасная палітыка, апіраючаяся на работніцкіх арганізацыях, на гэтак званых «звено-групах», была памылковай і што цяпер трэба лепш абаперціся на работніцкіх брыгадах. Напрацягу 20-ці годняе гісторыі калгасау савецкі урад правёу дзясяткі розных мэтадау з намерам падмацаваньня калгасау і павялічаньня працоунае актыунасьці калгасьнікау ды палепшаньне арганізацыі кіравецтва. Калектывізацыя прайходзіла зь вялікім напружаньнем, пацягнуушы за сабою калясальныя ахвяры. Нават пасьля закончэньня акцыі, сабраушы такое жніва ахвярау, партыя не магла спакойна адпачыць. Над калгасамі бязупынку трыралася вострая кантроля узброеных камуністау. Партыйнае кіравецтва й савецкі урад скрабліся у патыліцу, выдавалі безьліч розных дырэктывау, рэзалюцыяу, інструкцыяу і г.д., ды не адзін мільён рублёу затрацілі на калгасную прапаганду. Працоуная-ж актыунасьць з кожным днём паніжалася, збор збожжа дайшоу да крытычнага стану, а большасьць калгасау ня зьбіралі нават таго, што пасявалі і ніякая прапаганда, ні дэкрэты не змаглі зрушыць гэтую калгасную праблему з замярцьвелага пункту.

### КАНЦЭСЫІ.

У 1935 г. савецкі урад уводзіць новую палітыку у селькай гаспадарцы. Але гэтым разам не рэклямуецца ужо так гучна, бо, ведама-ж, паддаецца сялянству. Калгасьнікі ахватней узяліся за працу. Падпіхалася гэтак званае «звеню»,-накшкажучы малыя групы у тым-жа самым калгасе, надзяляючы калгасьнікау па куску зямлі ды дазваляючы трымаць карову, курэй і г.д. Такім чынам за вельмі кароткі час дасягнута не благіх рэзультатау, значна узрасла прадукцыя, якое так прагавіта чакалі бальшавікі. Нядоуга, аднак, гэта трывала. Прыйшоу 1939 год, пачалася вайна. Напружанае становішча, абмежаваньне на хлеб, а пасьля й фронт, змушаюць бальшавікоу пайсьці яшчэ на уступкі сялянству ды адступіць ад партыйнае лініі, каб зноу даць, хоць часткова, мейсца собскай уласнасьці.

Савецкі апарат папірае такім чынам малыя «зьвеньні», ня цікавячыся ужо такімі гучнымі тэорыямі аб працоуных брыгадах. Вось гэта паказывае, што савецкі апарат у сапрауднасьці меу дачыненьне непасярэдня з сялянствам, а не з калгаснымі арганізацыямі.

### НА ПАПЕРЫ ЯШЧЭ ГОРШ.

Ня гледзячы на доугае трываньне абмежаваньняу на хлеб, камуністы не адважыліся, гэтым разам, зрабіць палёгку, якая была раней у калгасах. Аднак індывідуалізм сялянства настолькі памацнеу, што цяпер селянін выразна зарэагавау на калгасны тэрор, у выніку чаго пачау ізноу карыстацца, хоць і невялікімі, дзялянкамі зямлі. Яшчэ горш прадстаулялася справа на паперы. Паводле газэты «Правда» -- бальшыня калгаснае зямлі эксплаатуецца сялянамі. Толькі у аднэй Бабруйскай акрузе здарыліся такія выпадкі аж у 121 калгасых. Гэткі стан, згодна аднэй весткі, быу на 19.10.1949 г. Адзін-жа год таму назад, калі мінуу ужо хлебны крызыс, дык палітбюро ізноу наважывалася увесьці жорсткія формы у калгасах.

### БЮРАКРАЦЫЯ.

Трэба зауважыць, што у такой малой працоунай групе, як «зьвено» няма мейсца для палітычнае кантролі і бюракратычных мэтадау. «Зьвено» - налічвае ад 5 да 35 чалавек, а «брыгада» да 1000. У «зьвене» пануе

